№ 98 (3839)

13 снежня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС



БЛІЦ

*Падзеі ва Украіне выклікалі вялікі розгалас па ўсім свеце, у тым ліку ў Беларусі. Майдан стаў прыярытэтнай тэмай у сацыяльных сетках, пра яго не сціхаюць размовы ў крамах, грамадскім транспарце, на рынках.*
*Падчас бліц-апытання "Народная Воля" прасіла адказаць на такія пытанні:*

## Ці магчымы ў цяперашняй Беларусі такі ж Майдан, як у суседняй Украіне? Пры якіх умовах і пад якімі лозунгамі беларусы змогуць выйсці на Плошчу, каб дабівацца выканання сваіх патрабаванняў?

*ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ, былы палітвязень:*

— Беларускі Майдан адбудзецца рана ці позна, але непазбежна. Людзі могуць сабрацца толькі пад адным лозунгам — "Перамен!". Калі народ захоча перамен, гэта значыць, што ён захоча чэсных выбараў. Адрозненне Беларусі ад Украіны і іншых краін, я перакананы, ў тым, што ў нас няма сапраўдных выбараў.

Калі людзі захочуць перамен і выйдуць на Майдан? Гэта можа здарыцца і заўтра, і ў 2015-м, і ў 2020-м — калі заўгодна. Відавочна адно: кожны з нас, хто прагне перамен, мусіць працаваць, каб Плошча адбылася. Патрэбна мець лідараў, якія ўзялі б на сябе ўсю адказнасць. Мы ж назіралі некалькі ўжо Майданаў беларускіх — і ў 2001-м, і ў 2006-м, і ў 2010-м. Нічога асабліва не мяняецца. І меседж быў на перамены, але ў выніковы дзень не знаходзілася такога лідара. Вось адсюль і параза тых акцый.

*ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя":*

— Праблема ў ступені свабоды. Ва Украіне яна на парадак вышэй. Наш Майдан магчымы толькі ў выніку духоўнай рэвалюцыі. У тым, што людзі ўсвядомяць сваю адказнасць за Беларусь, народ пакаецца, што ён цярпеў зло. У выніку такога пакаяння на грунце цвёрдай веры людзі будуць выходзіць на плошчу і адстойваць свабоду. Я ў гэта веру і веру, што першымі выйдуць вернікі. Перш за ўсё духоўныя каштоўнасці, а потым — усё іншае. Трывога выведзе людзей. Чым больш будзе трывогі за сваіх блізкіх, тым большы будзе Майдан.

*ДЗМІТРЫЙ УСС, экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта:*

— У нас у адрозненне ад Украіны няма бізнес-эліты. Як палітык я сказаў бы, што ў нас Майдан не адбудзецца менавіта з той прычыны, што няма алігархаў. У нас ёсць толькі "смотрящие" за бізнесам аднаго чалавека. У нас няма палітычных партый, якія б падтрымлівалі эканамічную рэформу. Але як абывацелю мне хацелася б, каб быў Майдан і каб ён быў пад лозунгам "У Еўропу!".

*АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі:*

— Беларускі Майдан адбудзецца, калі ў людзей з'явіцца матывацыя і калі будуць моцна закрануты іх надзённыя інтарэсы. Людзі будуць гатовы выйсці за справядлівыя сумленныя выбары дзеля перамен, калі яны зразумеюць, што праз гэта можна змяніць сітуацыю і вырашаць эканамічныя ды сацыяльныя праблемы. Плошча можа складацца з некалькіх асобных майданчыкаў. Калі гэта адбудзецца, то будзе адна вялікая Плошча, і яна стане выніковай.

*ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН, паэт:*

— Як мне ні шкада і ні горка, але вымушаны, цвяроза гледзячы на тое, у якім стане наша грамадства і дзяржава, сказаць, што Майдан у нас сёння немагчымы. Перш за ўсё не гатова грамадства, сілы апазіцыі слабаватыя, а рэжым пры гэтым "жэстачайшы".

*АЛЕСЬ КРАЎЦЭВІЧ, гісторык:*

— Майдан немагчымы ў нас. У Кіеве змагаюцца за абстрактныя інтарэсы — за набліжэнне да Еўропы, за інтэграцыю. А нашы людзі да гэтага не гатовы. Няма сярэдняга класа. У Беларусі Майдан магчымы толькі пад пагрозай голаду. Голад — гэта адзінае, што можа падштурхнуць людзей на такую акцыю.

*УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ, лідар кампаніі "Гавары праўду!":*

— Каб дарэшты зразумець, што такое сённяшні Майдан, трэба на ім не толькі дзень прастаяць, але і ноч пратрымацца каля ягоных кастроў. І ў размовах з простымі людзьмі зразумееш вельмі простую рэч: яны не за Еўрасаюз супраць Расіі, а тым больш не за апазіцыю супраць улады. Яны — за Украіну. Гэта яе высокі дух лунае над Майданам і калыша ўсе, якія ёсць, сцягі.

Ці магчымы гэтакі Майдан у амаль цалкам пазбаўленай нацыянальнай свядомасці Беларусі? Сёння — наўрад ці. Але гісторыя ў сённяшнім часе рухаецца вельмі імкліва. І я перакананы, што яна вынесе нас на грэбень падзей, збярэ беларусаў на свой Майдан ужо ў самай недалёкай будучыні.

*ІНА ІВАНОВА, пенсіянерка:*

— Пакуль не бачу нічога такога, каб у нас адбылася такая сітуацыя. Народ заняты выжываннем. Яму не да дэмакратычных ці палітычных рэформ. Людзі напалоханы, усе ж ведаюць, чым заканчваюцца вулічныя акцыі.

*ВАЛЯНЦІНА АЛІНЕВІЧ, маці палітвязня Ігара Аліневіча:*

— Беларусь занадта напалохана, каб чыніць нейкі Майдан. Людзі хаваюць галовы. Ці можна іх за гэта асуджаць? Прасцей з'ехаць з краіны, чым змагацца. Патрэбна неабходная колькасць людзей, якія складалі б эліту, а тая ў сваю чаргу змагла б павесці за сабой народ. Тут вельмі ўзаемазвязана і мінулае, і сучаснасць, і будучыня. Не бачу перадумоў для Плошчы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВОПРОС МИНИСТРУ



## Кому государство поможет оплатить квартиру?

Многие белорусы жалуются на то, что расходы на квартплату для них становятся обременительными. Будет ли государство помогать тем, кто не справляется с оплатой «жировок», что в соответствии с новым Жилищным кодексом угрожает человеку потерей жилья?

Этот вопрос вчера был задан министру финансов **Андрею Харковцу.**

*«Если в расходах домохозяйства затраты на жилищно-коммунальные услуги превысят 15 процентов, то будет включаться адресная социальная помощь на разницу»,* — сказал министр.

ВІНШУЕМ!

## Ігар Аліневіч — першы лаўрэат прэміі Аляхновіча

Цырымонія ўганаравання першых лаўрэатаў прэміі імя Францішка Аляхновіча — за літаратурны твор, напісаны ў турме, — адбылася ў Мінску.

Галоўная ўзнагарода дасталася за кнігу «Еду ў Магадан» палітвязню Ігару Аліневічу, асуджанаму на восем гадоў зняволення.

Прэмія Францішка Аляхновіча — бадай што адзіная ўзнагарода ў Беларусі, арганізатары якой хочуць як мага хутчэйшага яе знікнення. Злыя языкі называюць прэмію проста — турэмнай. Аднак сябры журы конкурсу сцвярджаюць, што больш, чым апісаннем жудасных рэалій, кіраваліся мастацкай вартасцю твораў.

*"Гэтая кніжка — найлепшая не толькі з усяго, што напісана ў Беларусі пра стан чалавека ў турме, але наогул у літаратуры, гэта па-першае,* — лічыць яшчэ адзін былы палітвязень, былы старшыня Саюза пісьменнікаў Уладзімір Някляеў. — *Па-другое, яна выйшла перш за астатнія і эмацыйна больш уразіла людзей. Па-трэцяе, гэта смеласць аўтара".*




Ігару засталося сядзець яшчэ 5 гадоў. Узнагароду атрымала ягоная маці Валянціна Аліневіч.

РЕЗОНАНС

## ОГП заявляет...

В прошлом номере «Народной Воли» мы сообщали о том, что первые российские самолеты вместе с обслуживающим техническим персоналом уже приземлились на аэродроме в Барановичах. Таким образом, начало созданию на территории нашей страны российской военной базы положено.

На новость отреагировала одна из крупнейших оппозиционных партий — Объединенная гражданская партия, Политсовет которой принял специальное заявление на сей счет.

**«Усиление военного присутствия России в Беларуси — это создание новых угроз для будущих перемен», — говорится в заявлении.**

**В этой связи Политсовет Объединенной гражданской партии**

**— отмечает, что данный шаг противоречит положениям Конституции Республики Беларусь;**

**— расценивает данные действия как реальную угрозу для демократических перемен в Беларуси;**

**— требует от белорусских властей предоставить полную информацию, касающуюся условий и целей размещения в Беларуси новых российских военных объектов и воинских подразделений.**

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

## В Эстонии кредиты на жилье выдаются под 4,5 процента годовых

В материале Елены МОЛОЧКО из Эстонии **«Нет цели выделиться, а есть — состояться. Семейный портрет в эстонском интерьере»** («НВ» №97) по вине автора допущена опечатка. Процентная ставка по кредиту за трехкомнатную квартиру в Эстонии у семьи Рудько составляет **всего 4,5%** в год, а не в месяц, как было написано в статье. И это действительно необременительная сумма. Приносим извинения нашим уважаемым читателям за досадную опечатку.

Это тот случай, когда, говорят, в бочку меда попадает ложка дегтя. Переживает автор, переживает и главный редактор. Но от случайных ошибок, к сожалению, никто не застрахован. Оперативное исправление — не только признание промаха в работе, но и зарубка на носу, что впредь и журналисту, и всем сопровождающим службам нужно более внимательно следить за каждым словом.

ПАЗІЦЫЯ

## У каго што баліць?

*Вось пяць пытанняў, якія прапаноўвае вынесці на народнае галасаванне кампанія "Гавары праўду!" на чале з Уладзімірам Някляевым:*

*1. Ці згодны вы, што неабходна выбіраць кіраўнікоў выканкамаў гарадоў, раёнаў і абласцей прамым галасаваннем грамадзян?*

*2. Ці згодны вы, што адзін і той жа чалавек не можа быць прэзідэнтам больш за два тэрміны?*

*3. Ці згодны вы, што ў дзяржаўных установах аховы здароўя і адукацыі ўсе паслугі павінны аказвацца за кошт дзяржаўнага бюджэту?*

*4. Ці згодны вы, што дзяржава павінна кампенсаваць насельніцтву Беларусі абясцэненыя ўклады савецкага перыяду і ў выніку дэвальвацыі 2011 года?*

*5. Ці згодны вы, што з мэтай фарміравання незалежнай судовай сістэмы на аснове выбарнасці суддзяў і перагляду ўжо вынесеных незаконных прысудаў і рашэнняў неабходна выключыць ўсялякі ўплыў прэзідэнта, выканаўчай улады на фарміраванне і працу судоў краіны?*

Сваю пяцёрку важнейшых тэм абнародаваў і рух "За Свабоду", які ўзначальвае Аляксандр Мілінкевіч. Рада арганізацыі спынілася на наступных пытаннях:

*1. Ці згодны вы, што трэба выбіраць кіраўнікоў выканкамаў гарадоў, раёнаў і абласцей прамым галасаваннем грамадзян?*

*2. Ці згодны вы, што неабходна павялічыць колькасць бясплатных месцаў у дзяржаўных ВНУ з 30% да 50% і зрабіць усё, каб беларускія дыпломы прызнаваліся ў Еўропе?*

*3. Ці згодны вы, што ў выпадку, калі дзяржава не можа даць неабходную медыцынскую дапамогу грамадзяніну да 16 гадоў, яна павінна аплаціць такое лячэнне ў Беларусі ці за мяжой?*

*4. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю і спрашчэнне візавага рэжыму з Еўрапейскім Саюзам?*

*5. Ці згодны вы, што ўсе праграмы і інстытуты, якія фінансуюцца бюджэтнымі грашыма, павінны даваць дэталёвую і публічную справаздачу пра даходы і расходы, акрамя выпадкаў, якія ахоўваюцца заканадаўствам пра ваенную і дзяржаўную тайну?*

*Як бачым, каманда Мілінкевіча наогул заплюшчвае вочы на тое, колькі тэрмінаў можа займаць пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адзін і той жа чалавек. Як быццам гэта не адна з галоўных праблем нашай краіны.*

**Кастусь ЛАЗОЎСКІ.**

ВНЕ ИГРЫ

## Выросла Калина

*В последнее время в околоспортивных кругах широко обсуждается «Санта-Барбара» вокруг перехода в сборную Беларуси российской биатлонистки Анастасии Калины. Краткое содержание предыдущих серий таково.*

Накануне Олимпиады в Сочи белорусские спортивные чиновники решили сделать своеобразный финт — укрепить женскую сборную по биатлону за счет перспективной россиянки. История умалчивает, как шел процесс переговоров, но Союз биатлонистов России трактует ситуацию так: Калина, заявленная в январе 2013 года на этап Кубка IBU в составе сборной России и не вышедшая на старт, сославшись на болезнь, сезон-2013/2014 начала в составе белорусской сборной. 28 ноября 2013 года СБР получил уведомление от Белорусской федерации биатлона, что спортсменка будет отныне представлять Беларусь. И она уже дебютировала на этапе Кубка мира в новой команде.

Дальше «мыльная опера» дала обильную пену. Российская сторона вспомнила бывшей «подданной» все: помощь во время беременности, финансовые затраты на подготовку, тихий заговор белорусов... И точка еще не поставлена. «Дело Калины» рассмотрит арбитражный суд Международного союза биатлонистов. Сама спортсменка говорит, что ей надоело быть на вторых ролях в российской сборной и вообще она выходит замуж за белоруса.

Дело, возможно, и на самом деле не стоит выеденного яйца, но за всеми этими взаимными упреками, претензиями и выпадами как-то теряется другое: а зачем нам чужие спортсмены? Калина — звезда мирового биатлона? У нас нет своих молодых и перспективных ребят, которым нужно открывать дорогу в будущее? И если нет, то зачем тогда вообще в стране работают целые биатлонные школы и подразделения? Так ведь проще — переманить уже подготовленных спортсменов. Деньги на их подготовку тратить не надо. Придется, конечно, потратиться на квартиру, зарплату и прочие расходы, но при удачном стечении обстоятельств все окупится.

Радетели за «легионеров» часто находят аргумент: мол, молодым белорусским спортсменкам будет у кого учиться. Глупости! У нас уже были российские биатлонистки Екатерина Иванова и Надежда Писарева. Их самих приходилось учить...

Печально, но сегодняшняя ситуация с Калиной — это частный случай, который показывает общую картину ситуации в белорусском спорте. Например, в феврале прошлого года получили белорусское гражданство трое канадских хоккеистов — Джефф Платт, Чарльз Линглет и голкипер Кевин Лаланд. Паспорта делали в авральном порядке — Министерство спорта и туризма Беларуси выступило с ходатайством о сокращении стандартной процедуры приема в гражданство Беларуси, которая обычно занимает 7 лет. И Платт уже играет за белорусскую команду. Я ничего не имею против этих ребят, но вот вопрос. В последние годы в белорусский хоккей вбухивались просто колоссальные деньги. Хоккеисты и их тренеры получали такие зарплаты, что шахтерам из забоев и не снились. При этом не только в минском «Динамо», но и в рядовых клубах рядового чемпионата Беларуси. И где результат? Отвечу: он есть. Набитые карманы и последнее место «Динамо» в своей конференции в чемпионате КХЛ. Сейчас ведь команда сократила количество легионеров до минимума, и игроки отечественного розлива, как оказалось, не на уровне. А скоро домашний чемпионат мира по хоккею. Почему бы не натурализовать тройку канадцев? Победителей ведь не судят — опять-таки при удачном стечении обстоятельств затем все спишут, все простят. И бездарно потраченные средства, и армию легионеров.



Кто-то скажет: миграция спортсменов по всему миру уже стала обыденным делом. Рыба ищет, где глубже, а человек — где лучше. Может быть. Только я знаю другое: прежде всего нужно воспитывать, ценить и уважать своих. И лично я готов любоваться блестящими выступлениями корейских конькобежцев на соревнованиях по шорт-треку, но не согласен болеть за корейца, которого неизвестно какими коврижками заманят выступать под белорусским флагом. Лучше уж вообще пускай никто не выступает.

Кому нужна такая показуха? Кому нужна такая цель, которая не оправдывает средства?

**Алесь СИВЫЙ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 13 СНЕЖНЯ 2013 г.

**БУДЬ В КУРСЕ!**

# Тиф возвращается?

**У жителей Брестской области впервые за последние 14 лет зарегистрированы случаи брюшного тифа**

По сообщению Брестского областного центра гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья, в ноябре в частном общежитии Подольска (Московская область) была зарегистрирована вспышка брюшного тифа. Заражению подверглись в том числе две жительницы Брестской области, которые в настоящее время лечатся в инфекционной больнице города. Кроме того, брюшной тиф был диагностирован у жителя Кировского района Могилевской области, также находившегося в Подольске.

По данным БОЦГЭиОЗ, в последний раз данное инфекционное заболевание было зарегистрировано в Брестской области 14 лет назад.

Для предотвращения групповой заболеваемости брюшным тифом и паратифами областная санитарно-эпидемиологическая служба проводит комплекс противоэпидемических и профилактических мероприятий.

## Чем опасен тиф?

Брюшной тиф — одна из наиболее серьезных кишечных инфекций, которая поражает желудочно-кишечный тракт, печень, селезенку, кровеносные сосуды. Заболевание сложно вылечить, до изобретения антибиотиков тиф был практически смертельным заболеванием.

Возбудитель этой болезни — бактерия S.typhi — очень устойчива в окружающей среде. В организме человека она вырабатывает сильный токсин, который и определяет все симптомы и тяжесть заболевания. Заразиться брюшным тифом можно только от больного человека или здорового носителя патогенной бактерии. Распространяется через еду и питье, а также контактно-бытовым путем — через грязные руки, предметы обихода или посуду.

Опасное последствие заболевания — бактерионосительство или повторное заражение. Возбудитель брюшного тифа очень устойчив и часто даже после курса антибактериальной терапии остается жить в желчных протоках печени. При снижении иммунитета клиническая картина брюшного тифа может повториться. Такой человек может выделять S.typhi и быть опасным для окружающих. Для профилактики этих последствий выписку больных тифом проводят не раньше чем 23 дня после нормализации температуры.

## Как не заболеть?

В начале этого года в газете «Медицинский вестник» врач-эпидемиолог Республиканского центра гигиены и эпидемиологии Нинель Бискина давала рекомендации относительно брюшного тифа и дизентерии.

— Иммунизация против брюшного тифа и дизентерии в Беларуси не проводится, — пояснила специалист. — Пребывая за рубежом, да еще в стране с «экзотическим» климатом, необходимо соблюдать определенные правила проживания, питания и культурного отдыха. Желательно поселиться в гостинице с централизованным водоснабжением и канализацией. Как можно чаще мыть руки. Только из бутилированной или кипяченой воды делать кубики льда, ею промывать фрукты, на ней готовить. Питайтесь в местах, где используют продукты гарантированного качества промышленного производства. Покупая что-нибудь в магазинах, обращайте внимание на срок годности, соблюдайте температурный режим хранения. У уличных торговцев, на рынке готовую еду не приобретайте.

При возникновении любого недомогания (лихорадочного состояния, тошноты, рвоты, жидкого стула) немедленно обращайтесь к врачу.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

**ЗДАРЭННЕ**

# Пінская школьніца выкінулася з восьмага паверха і засталася жывая

*Праваахоўнікі Пінска праводзяць праверку па факце няшчаснага выпадку, які адбыўся з навучэнкай 11-га класа адной з гарадскіх агульнаадукацыйных школ.*

Пра гэта паведаміў начальнік аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Брэсцкага аблвыканкама **Сяргей Дучэнка**. Як стала вядома, дзяўчына 1996 года нараджэння, знаходзячыся дома, выпала з акна кватэры, размешчанай на восьмым паверсе. Але засталася жывой, за жыццё школьніцы змагаюцца ўрачы. Дзяўчыне праведзена аперацыя па прыпыненні ўнутрычэраўнага крывацёку, у яе таксама множныя пераломы костак, але, на шчасце, пашкоджанняў чэрапа няма.

Па непацверджаных дадзеных, прычынай спробы самагубства стала непадзеленае каханне.

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

# Былы мэр Гомеля заявіў пра неаб’ектыўнасць следства

***У Магілёве працягваецца суд над былым кіраўніком Гомельскага гарвыканкама Віктарам Піліпцом і яго былымі падначаленымі, абвінавачанымі ў махінацыях з размеркаваннем кватэр. Нагадаем, што суд перанеслі з Гомеля ў Магілёў у мэтах аб’ектыўнасці.***

У слуханнях справы чарга нарэшце дайшла да галоўных эпізодаў. У ходзе судовага допыту ў сераду Віктар Піліпец распавёў, як размяркоўвалася жылплошча падчас фінансавага крызісу 2011 года.

Як вынікае з паказанняў, улетку 2011 года аказаліся незапатрабаванымі 50 кватэр. Упраўленне капітальнага будаўніцтва гарвыканкама не мела сродкаў, каб іх выкупіць для далейшага размеркавання, хаця гэтая жылплошча была зарэзервавана для людзей, што мелі прыярытэтнае права на яе атрыманне. Па словах Піліпца, УКБ пераканала гарвыканкам зняць кватэры з рэзерву для далейшага продажу, каб сплаціць свае шматмільярдныя даўгі і кампенсаваць выдаткі па ўзвядзенні дамоў.

Паводле сцвярджэнняў Піліпца, палову незапатрабаваных кватэр выдзелілі для работнікаў сацыяльнай сферы, другую палову аддалі ў распараджэнне ўпраўлення капітальнага будаўніцтва. Яно ж прадавала кватэры праз заключэнне дамоў на долевае будаўніцтва. Віктар Піліпец прызнаў, што ён такім чынам таксама набыў дзве кватэры — для сваёй сям’і і дачкі. Пры гэтым абвінавачаны даводзіў, што ягоная сям’я мае службовую жылплошчу і стаіць у чарзе на атрыманне жылля. Дачка ж ягоная вучыцца ў Мінску, але хоча перабрацца ў Гомель. У Мінску яна таксама стаіць у чарзе на жылплошчу.

Кватэры Піліпцу афармлялі на сябе ягоныя даўнішнія знаёмцы, бо, паводле слоў былога кіраўніка Гомеля, яму самому не было калі гэтым займацца.

Дзяржаўны абвінаваўца запытаўся: “Хіба толькі гэта было прычынай?”

Піліпец адрэагаваў: «Другая прычына, калі шчыра гаварыць, то маё прозвішча ведаюць калі не ўсе, то многія, і даваць лішнія нагоды для плётак, што вось жыве ў доме ці кватэры і яшчэ адну купіць... Ніхто ж не ведае, што ў службовай жыву. Вось гэта адыграла сваю ролю. Калі б я быў простым чалавекам, то гэтых дзвюх прычын не было б і па часе, і па маральным аспекце гэтага пытання. Я звярнуўся да іх, і гэтыя людзі пагадзіліся дапамагчы пастаяць у чарзе і аформіць. Я не лічу гэта злоўжываннем ці парушэннем».

Што да высноў следства, то, як паведамляе Рыдыё Свабода, былы кіраўнік гарадской вертыкалі выказаў сумнеў, што яно аб’ектыўнае. Чаму — не патлумачыў, спаслаўшыся на прысутнасць журналістаў на судовым пасяджэнні.

**ДАСЬЕ**

Віктара Піліпца арыштавалі ў 2012 годзе. Яму інкрымінуецца злоўжыванне службовым становішчам. Па справе таксама праходзяць чатыры супрацоўнікі Гомельскага ўпраўлення капітальнага будаўніцтва. Паводле высноў следства, абвінавачаныя, пазбягаючы нарматыўных перашкод, размяркоўвалі кватэры між сваякамі і знаёмымі па заніжаных цэнах, а таксама афармлялі дагаворы па набыцці кватэр на падстаўных асоб.




**ТЫМ ЧАСАМ**

# А на падыходзе новыя справы

*Генеральны дырэктар “Мазырскага райжылкамгаса” абвінавачваецца ў прычыненні прадпрыемству, якое ён узначальваў, матэрыяльнай шкоды ў асабліва буйным памеры. Нібыта шкода была нанесена “ў выніку правядзення работ па добраўпарадкаванні аб’ектаў у Мазыры”. У дачыненні да яго ўзбуджана крымінальная справа, абрана мера стрымання — заключэнне пад варту.*

Акрамя таго, афіцыйна паведамлена пра тое, што расследуюцца дзве крымінальныя справы ў дачыненні да былых супрацоўнікаў Следчага камітэта. Так, у дачыненні да экс-супрацоўніка следчага падраздзялення ўпраўлення СК па Мінскай вобласці расследуецца справа па факце атрымання хабару (ч.3 арт.430 КК), а былы следчы УСК па Брэсцкай вобласці абвінавачваецца ў фальсіфікацыі доказаў па крымінальнай справе (ч.2 арт.395 КК).

**КУЛУАРЫ**

# Літаратары вяртаюцца ў непадкантрольны ўладам Саюз беларускіх пісьменнікаў

Найстарэйшая творчая арганізацыя папаўняецца не толькі новымі літаратарамі, але і былымі членамі, якія сыходзілі ў афіцыйны пісьменніцкі саюз.

Пра гэта паведаміў памочнік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Усевалад Сцебурака. На чарговым пасяджэнні рады ў сябры арганізацыі былі прыняты 13 чалавек. Таксама ў СБП вярнуліся Алесь Наварыч і Андрэй Паўлухін.

*“Гэта не ёсць прыём у прамым разуменні, гэта проста разгляд просьбы аб вяртанні,* — патлумачыў Усевалад Сцебурака. — *Сярод такіх людзей, што нядаўна вярнуліся, Андрэй Федарэнка, зараз Алесь Наварыч таксама вярнуўся да нас. Аднаўлены ў шэрагах таксама Паўлухін. Ён сам з Гомельшчыны, такім чынам мы папаўняемся не толькі за кошт новапрыбыўшых, але і за кошт вяртання нашых старых, добрых сяброў. Зараз па розных прычынах людзі вяртаюцца, пазбавіўшыся прымусу”.*

Раней Алесь Наварыч разам з яшчэ чатырма літаратарамі выйшаў з праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**ТЫМ ЧАСАМ**

Непадкантрольны ўладам Саюз беларускіх пісьменнікаў рыхтуецца да святочных мерапрыемстваў з нагоды 80-годдзя арганізацыі.

**РЕГИОН**

# Приватизирован… фонтан

*В Бресте бывший главный городской фонтан отошел частной фирме. И войдет в состав строящегося ресторана.*

Самый красивый и крупный городской фонтан, построенный в 80-х годах минувшего века на ставшей затем пешеходной улице Советской в центре Бреста, долгие годы был излюбленным местом отдыха горожан разных поколений. Особенно в знойные летние дни, когда под порывами ветра он осыпал своими брызгами восторженную детвору. И не одна сотня гостей города над Бугом увозила на память красочные открытки с видом этого красивейшего уголка. Со временем фонтан стал приходить в упадок, его включали все реже и реже — говорят, это стало не по карману городскому бюджету. Что тем не менее не повлияло на популярность этого места среди молодежи.

Затем фонтан затих окончательно, стал ветшать. Умудренные жизненным опытом горожане стали поговаривать, что, если в городе что-то приходит в упадок, это кому-то надо. Предположение нашло подтверждение. Уже официально объявлено, что у этого замечательного уголочка старого города объявились новые хозяева — общество с ограниченной ответственностью с российским капиталом. Объект был включен в инвестиционную программу, участок передан в аренду, родился проект, прошедший все инстанции. Проект утвердили в Министерстве культуры, градостроительном совете и иных инстанциях (все-таки историческая часть города). Ныне фонтан и прилегающая к нему территория ограждены. И что же там будет?

Очередной «крайне необходимый» городу ресторан в двух уровнях, с летней площадкой наверху. Причем доминирующим в дуэте будет ресторан, а фонтан, как удалось выяснить, будет «органично, мягко вписываться в ресторанное сооружение и существующую застройку».

Время на реализацию проекта (если, конечно, ООО доживет) — до января 2016 года.

Своеобразный, прямо скажем, подарок к 1000-летию города. А что взамен? Не так давно вступил в строй новый фонтан на площади Ленина, напротив здания облисполкома. Однако там не побрызгаешься и не потусуешься — своеобразная режимная зона, о чем сообщают таблички.

**Игорь ИРИНИЧ.**

**Брест.**

**СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ**



# Лешек ШЕРЕПКА: «Хотел бы, чтобы дети вообще не болели раком»

***В РНПЦ детской онкологии, гематологии и иммунологии открылся первый в Беларуси дом временного пребывания для родителей и детей, проходящих лечение от онкозаболеваний.***

Домики, где на время лечения могут оставаться больные дети и их родители, не дань престижу или комфорту. Для десятков маленьких пациентов это вопрос жизни и смерти.

— *Нахождение большого числа детей в стационаре обусловлено возникновением инфекций,* — поясняет профессор, директор РНПЦ **Ольга Алейникова.** — *А наши пациенты с подавленным иммунитетом. Иногда дети могут умереть от простых сезонных инфекций, а не от рака.*

Одновременно на лечении в онкоцентре может находиться 115 детей. Сегодня число маленьких пациентов гораздо больше — около 200 человек. Десятки больных детей и их родителей из регионов вынуждены снимать квартиры и на общественном транспорте ежедневно ездить на лечение в центр. Для ребенка с онкологией каждая такая поездка — угроза жизни.

— *Дом, где могли бы временно оставаться больные дети и их родители, был запланирован еще при строительстве центра,* — призналась Ольга Алейникова. — *Планируя сразу две стройки, мы не предполагали, что это слишком большая нагрузка. В итоге здание, которое должно было стать чем-то вроде гостиницы, так и не было достроено.*

*Все было забыто, пока не появился проект «Ротари клуба». Когда они пришли ко мне и показали рисунок с изображением целой улицы маленьких домиков... Я, честно говоря, не верила, что нам удастся его завершить. Поверила, когда получила поддержку Минздрава.*

Сегодня первый дом из сорока уже стоит напротив входа в РНПЦ. Вскоре рядом с ним появится второй, а в апреле на площадке в Боровлянах планируют ввести в эксплуатацию еще не меньше четырех строений. Каждый домик рассчитан на две семьи. Врачи подсчитали, что при удачном завершении проекта домики помогут сохранить жизнь минимум 3—4 детям, которые не смогли бы выкарабкаться раньше.

Первый результат проекта «Пансионат «Боровляны» сегодня можно увидеть только благодаря Посольству Польши в Беларуси. Из средств помощи содействия развития Министерства иностранных дел Польши «Польская помощь» было выделено 37.800 евро. Ровно столько, сколько понадобилось для возведения первого домика и специального подарка для всех маленьких пациентов центра — яркой детской площадки.



— *Благодаря поддержке польской стороны проект заработал,* — признался «Народной Воле» руководитель общественного объединения «Дети в беде» **Евгений Украинцев.** — *До этого несколько раз строительство срывалось, надеюсь, теперь нам удастся довести его до конца. По планам мы должны завершить все работы до конца 2014 года. Сегодня основная проблема — коммуникации. Очень дорого подводить их к каждому домику по очереди, так что будем вводить объект в эксплуатацию по частям.*

Домики, кстати, отечественного производства. Их изготовила фирма, которая занимается садовыми и дачными постройками. Когда узнали о том, для кого работают, сами предложили центру заплатить только за материалы.

Домики не очень просторные, но здесь есть все необходимое. Маленький коридорчик, где можно снять обувь и верхнюю одежду, переходит в компактную общую кухню. Из кухоньки две двери — каждая ведет в комнату с отдельной уборной и душевой. Здесь и будут жить мамы с малышами. Места, конечно, немного, но хватает для того, чтобы разместить две кровати и столик. Позже на стенах появятся телевизоры от спонсоров, а на крышах — даже солнечные батареи!

— *Здесь, конечно, будет гораздо лучше, чем в больнице,* — призналась мама из Солигорска, чьей малышке поставили онкодиагноз 3 месяца назад.

По примеру польских дипломатов к проекту подключились другие иностранные представители и отечественные фирмы.

— *Хорошо помогать детям, они всегда очень благодарны,* — признался Чрезвычайный и Полномочный Посол Польши **Лешек Шерепка**. — *Они будут помнить эту помощь всю жизнь. Но, конечно, я бы хотел, чтобы детям не нужна была такая поддержка, чтобы они вообще не болели раком. Я был бы очень рад, если бы мы строили только детские площадки. Но сегодня пусть наша помощь станет подарком под елку для хороших друзей.*



**Мария МАЛЕВИЧ.**

**КСТАТИ**

## *Помочь может каждый*

Реквизиты для перечисления денег Республиканскому обществу «Дети в беде»:

«Приорбанк» ОАО ЦБУ 111 г.Минска, код банка 153001749, УНП 100665189, р/с 3135001098505 в USD, р/с 3135001098518 в евро, р/с 3015001098016 в бел. рублях. Председатель ОО «БРО «Дети в беде» — Евгений Андреевич Украинцев.

